# БАЦЬКАЎШЧЫНА



**ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ**

**DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA“ („VATERLAND“)**
**Herausgeber: Wladimir BORTNIK**
**Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna“ („Das Vaterland“), (13 b) München 19, Schliessfach 69.**

Druck: „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 8, Rosenheimer Str. 46 a.
**Цана паза Нямеччынай:** ЗША — 20 цэнтаў, Канада — 20 ц., Ангельшчына — 1 шылінг, Францыя — 20 фр., Бэльгія — 5 фр., Аўстралія — 1 шылінг, Аргентына — 2 пэзо. У іншых краінах раўнавартасьць 15 ам. цэнтаў. Цана лётніцкай поштай у заакіянскія краіны — 30 ам. цэнтаў. — Падвойныя нумары каштуюць падвойна.

**Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna“, Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.**

**ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 50 Н. ФЭН.**

**LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE“** | **DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND“** | **THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER “THE FATHERLAND„**

**№ 35-36 (317-318)** — **Нядзеля, 2 верасьня 1956 г.** — **ГОД ВЫДАНЬНЯ 10**


# Завайстрэньне дачыненьняў між Масквой і Бонам

Заходнія вялікадзяржавы Эўропы Вялікабрытанія й Францыя сяньня на толькі заабсарбаваныя справамі Сярэдняга Ўсходу — лёсам Суэскага каналу, Цыпру й Паўночнай Афрыкі, што на справы чыста эўрапэйскія мала зьвяртаюць увагі. Лічучыся з магчымасьцю бараніць правоў да Суэзу навет збройнай сілай, Вялікабрытанія забрала з Заходняй Нямеччыны палавіну сваіх войскаў, што стацыянавалі тут спачатку як акупацыйныя збройныя сілы, а пазьней згодна з забавязаньнямі ў дачыненьні да Атлянтычнага пакту, а Францыя ў Паўночнай Афрыцы, галоўна ў Альжыры трымае і ўвяла ў акцыю каля поўмільёна сваіх жаўнераў.Задзіночаныя Штаты Амэрыкі, будучы занятыя прэзыдэнцкімі выбарамі, таксама зьменшылі сваю палітычную й дыпляматычную актыўнасьць у пытаньнях Заходняе Эўропы.

Гэтую сытуацыю пастараўся выкарыстаць Савецкі Саюз, каб аднавіць халодную вайну супраць Нямецкай Фэдэральнай Рэспублікі, часова здадзенай на собскія сілы. Галоўным прэтэкстам да антынямецкай кампаніі Масквы паслужыла забарона Найвышэйшым Канстытуцыйным Трыбуналам Заходняе Нямеччыны камуністычнай партыі й прызнаньне ейнае дзейнасьці за супярэчную з канстытуцыяй.

Шукаючы глыбейшых прычынаў сяньняшняй узмоцненай палітычнай і прапагандовай атакі Крэмля супраць Заходняй Нямеччыны, трэба вярнуцца да паездкі канцлера Адэнаўэра ў Маскву. Гэтая візыта была Крэмлём задуманая, як спроба вымушэньня радыкальнай зьмены курсу замежнай палітыкі Заходняй Нямеччыны. Саветы мелі надзею што калі-б і не ўдалося зрабіць із Заходняй Нямеччыны свайго сатэліта, дык прынамсі імкнуліся яе знэўтралізаваць, г. зн. вырваць з палітычнай арбіты Атлянтычнай абароннай арганізацыі. Гэтыя надзеі Крэмля сталіся праўдападобнымі, калі Адэнаўэр у Маскве пайшоў на некаторыя ўступкі даючы згоду за звальненьне й паварот каля 9.000 нямецкіх ваеннапалонных навязаць узаемныя палітычныя дачыненьні між Бонам і Масквой.

Але канцлер Адэнаўэр. вярнуўшыся з Масквы, выказаў максімум асьцярожнасьці, палітычнага розуму й прадбачлівасьці. Далейшыя ягоныя палітычныя ходы пераканалі Саветаў, што іхных плянаў ў дачыненьні да Заходняй Нямеччыны зрэалізаваць ня ўдасца. І гэта ня толькі дзякуючы палітыцы канцлера Адэнаўэра і ягонай цьвёрдай пазыцыі, але й дзякуючы такой-жа цьвёрдай пазыцыі ўсяго нямецкага народу, у тым ліку і ўрадавай апазыцыі. Гэтая апазыцыя за намечаныя ёю згары межы кампрамісу далей не пайшла і не згадзілася ані дамагацца пажаданай для Саветаў зьмены нямецкай замежнай палітыкі, ані йсьці на перагаворы з камуністычным урадам Усходняй Нямеччыны. Не апраўдалі сябе і надзеі Масквы, што ёй удасца перацягнуць на свой бок нямецкія прамысловыя колы, сярод якіх савецкі амбасадар у Бон Зорын праводзіў энэргічную прапагандовую акцыю, заманьваючы іх бліскучымі пэрспэктывамі гандлю з Савецкім Саюзам.

Забарона камуністычнай партыі ў Заходняй Нямеччыне палажыла канец і вонкавай палітычнай куртуазіі Масквы ў дачыненьні да Нямецкай Фэдэральнай Рэспублікі й аднавіла ранейшую халодную вайну з пэрыяду перад візытай Адэнаўэра ў Маскве. Савецкая прэса павяла нязвычайна войструю кампанію супраць заходнянямецкага ўраду і асабіста канцлера Адэнаўэра. Маскоўская «Правда» назвала ўрад Адэнаўэра годным наступнікам рэжыму Гітлера і правяла параўнаньне між разьвязаньнем камуністычнай партыі пасьля прыходу да ўлады Гітлера і цяперашняй пастановай Найвышэйшага Канстытуцыйнага Трыбуналу.

Апрача гэтага, Саветы ўвесь час абвінавачваюць заходнянямецкі ўрад, што ён дрэнна абходзіцца з савецкімі грамадзянамі (чытай — палітычнымі эмігрантамі з Савецкага Саюзу), якія падчас вайны апынуліся на тэрыторыі Заходняй Нямеччыны, і што пры помачы прапаганды, шантажу й прымусу не дае ім магчымасьці вярнуцца ў Савецкі Саюз.

Урад Заходняй Нямеччыны із свайго боку абвінавачвае Савецкі Саюз, што апошні ня выканаў узятага на сябе забавязаньня дазволіць усім арыштаваным і дэпартаваным Немцам вярнуцца на бацькаўшчыну. Праўда, Саветы вярнулі каля 9.000 засуджаных нямецкіх ваеннапалонных, але Немцы маюць дакумэнтальныя дадзеныя, што іх там яшчэ знаходзіцца звыш 100.000 чалавек. Апрача гэтага, урад Адэнаўэра нядаўна выслаў Саветам пратэст супраць затрымліваньня інтарэсантаў, што стараюцца наведаць нямецкую амбасаду ў Маскве.

Паколькі паездка Адэнаўэра ў Маскву і абмена амбасадамі між Савецкім Саюзам і Заходняй Нямеччынай ня далі Маскве жаданых вынікаў, Саветы пачалі ігнараваць навязаныя зь Нямецкай Фэдэральнай Рэспублікай дыпляматычныя дачыненьні. Гэтак ужо ад даўжэйшага часу Масква адклікала свайго амбасадара ў Бон Зорына і ня думае пакуль што назначаць новага, даручыўшы выконваньне ягоных функцыяў свайму вайсковаму аташэ.

Апошнімі днямі адбылася між Масквой і Бонам асабліва войстрая вымена нотаў, якая паказвае, што напружаньне між абедзьвюма краінамі зайшло ўжо вельмі далёка. Цэнтральны Камітэт камуністычнай партыі Савецкага Саюзу нядаўна абвесьціў вельмі войстрае асьветчаньне ў справе забароны камуністычнай партыі ў Заходняй Нямеччыне, цьвердзячы, што гэта «антынародны крок, які топчыць асноўныя правы й свабоды нямецкага народу».

Апрача гэтага, 28 жніўня сёлета Масква перадала заходнянямецкаму ўраду ноту, у якой катэгарычна адкідае ноту ўраду ў Бон з 9 ліпеня сёлета ў справе рэпатрыяцыі савецкіх грамадзян з Заходняй Нямеччыны. Нямецкая нота высьняла. што людзі, якія не вярнуліся ў Савецкі Саюз, тым самым перасталі ўжо быць высяленцамі і павінны быць уважаныя за эмігрантаў. Савецкая нота гэтую тэзу станоўча адкідае й дамагаецца, каб ня былі робленыя ніякія перашкоды асобам, што жадаюць (!) вярнуцца ў Савецкі Саюз.

Урад Нямецкай Фэдэральнай Рэспублікі 31 жніўня сёлета станоўча адкінуў асьветчаньне камуністычнай партыі Савецкага Саюзу ў справе забароны камуністычнай партыі ў Заходняй Нямеччыне, як «грубое ўмешваньне ў нутрана нямецкія справы». Таксама абвінавачаньні, якія былі выказаныя ў успомненай савецкай ноце ў справе перашкоды рэпатрыяцыі савецкіх грамадзянаў, былі заходнянямецкім урадам адкінутыя, як поўнасьцю беспадстаўныя.

Такая просталінейная палітыка Заходняй Нямеччыны ў дачыненьні да Савецкага Саюзу і сьмелае адбіваньне савецкіх нападаў і шантажоў як-жа пазытыўна вырозьніваюцца на фоне капітулянцкай палітыкі іншых заходняэўрапэйскіх дзяржаваў! Гэта мае сваю вымову ня толькі для сяньняшняй палітыкі Нямецкай Фэдэральнай Рэспублікі, але й для яе будучыні. Многія на Захадзе ня скрываюць пабойваньняў, што із зыходам з палітычнай арэны канцлера Адэнаўэра і з прыходам да ўлады сацыялдэмакратаў Заходняя Нямеччына можа папасьці ў сфэру савецкіх уплываў і быць страчанай для Захаду. Такімі-ж надзеямі песьціць сябе і Масква. Але цьвёрдая й станоўчая пазыцыя ўсяго насельніцтва Заходняй Нямеччыны ў вабліччы савецкіх палітычных атакаў і шантажоў, занятая ўжо ня раз, а таксама далёка пасунутая асьцярожнасьць у палітычнай ігры з Саветамі і нямецкіх сацыялістых падмацоўвае надзею, што Заходняя Нямеччына ня зыйдзе із свайго цяперашняга палітычнага шляху. А гэта ў змаганьні з сьветавай камуністычнай загрозай можа мець першараднае значаньне.

**Л. К.**

# Выбары ў ЗША

Нядаўна ў Злучаных Штатах закончылася вылучэньне кандыдатаў на становішча прэзыдэнта, або так званыя партыйныя канвэнцыі. Як і папярэднім разам, у лістападзе да выбараў станунь два канкурэнты: Айзэнгаўэр ад рэспубліканцаў, а ад дэмакратаў — Стывэнсон.

Хоць працэдура гэтых канвэнцыяў моцна прыгадвае апэрэтнае відовішча або мясаедны паход — столькі там шуму, музыкі, транспарэнтаў, балёнікаў, фільмовых зорак і, рэч зразумелая, піцьця — аднак яны зьяўляюцца вялікай падзеяй. Таму ўвесь сьвет, хоць крыху й крывіцца ад гэтага недахопу павагі, аднак уважна назірае за гэтымі канвэнцыямі. Цяпер, як ніколі, становішча прэзыдэнта Злучаных Штатаў Амэрыкі мае вялізарнае значэньне для ўсяго сьвету, калі сілай абставінаў Амэрыка мусіла ўзяць на сябе адказную ролю правадніцтва вольных народаў. А роля такой нянькі вельмі-ж цяжкая, каштоўная й няўдзячная. Трэба сваіх клiентаў падкормліваць, апранаць, даваць ім на дробныя выдаткі, пільнаваць, каб каторы ня скруціў галавы, мірыць іх. А тыя ня вельмі хочуць слухацца, маюць свае капрысы, амбіцыі, ганарацца сваім беспаваротным мінулым шумнай маладосьці, уяўляюць сябе страшэнна разумнымі і распаўзаюцца на ўсе бакі. Гэты працэс няньчаньня тым больш ускладняецца, што ўсё адбываецца на дзейным вулькане. Таму ня дзіва, што ўвесь сьвет зацікаўлены тым, хто будзе кіраўніком амэрыканскае палітыкі на наступныя чатыры гады.

Ня будзем рызыкаваць угадваць, каторы з двух кандыдатаў будзе выбраны ў лістападзе, бо ў краінах праўдзівае дэмакратыі магчымыя розныя неспадзеўкі. Усё-ж такі ёсьць шмат праўдападабенства. што Айзэнгаўэр будзе выбраны на наступную кадэнцыю. Тое, што ён зьліквідаваў непапулярную карэйскую вайну, зрабіла яму вялікую папулярнасьць ня толькі ў Амэрыцы, але і ў сьвеце. Праўда, неразыграная і так каштоўная вайна падважыла прэстыж дзяржавы, але затое, дзякуючы элястычнасьці Айзэнгаўэра, амэрыканскія бойсы ня гінуць больш у далёкай Карэі . . .

Падчас кадэнцыі Айзэнгаўэра — хоць ня з выключна зь ягонай прычыны — Амэрыка асягнула вельмі высокі жыцьцёвы ўзровень,якога да гэтага часу ня мела. Гэта таксама падняло ягоную папулярнасьць.

Далей, — як гэта ні дзіўна, — але народы із запраўды дэмакратычнымі традыцыямі, у спакойным часе, баяцца ставіць на чале людзей зь цьвёрдай рукой і моцнай індывідуальнасьцяй. Гэтае зьявішча зразумелае, бо народ баіцца дыктатарскіх прыхватак і парушэньня дэмакратычных правоў. Толькі ў трывожныя часы сьмяротнай небясьпекі дэмакратычныя народы нагвалт шукаюць моцных індывідуальнасьцяў і падпарадкоўваюцца ім.

Вялікі ўплыў на вынік выбараў будзе мець і тое, каторы з кандыдатаў пераліцытуе свайго канкурэнта ў абяцаньнях народу ды наколькі гэтыя абяцаньні будуць атракцыйнымі й пераконвальнымі.

Як ведама, у 1952 годзе, падчас перадвыбарчай кампаніі, Айзэнгаўэр абяцаў, што першым ягоным учынкам будзе ліквідацыя карэйскай вайны. І. як мы бачылі, слова свайго датрымаў. Таксама як падчас папярэдняй выбарчай кампаніі, так, думаем, і цяпер, канкурэнты не забудуцца пра галасы эмігрантаў з Усходняе Эўропы. Чатыры гады таму Айзэнгаўэр абяцаў нясупынна імкнуцца да вызваленьня гэтых народаў з бальшавіцкага ярма. Трэба прызнаць, што ён стараўся датрымаць гэтае слова. Айзэнгаўэр быў амаль адзін зь дзяржаўных мужоў Захаду, які пры кажнай нагодзе ўздымаў справу паняволеных народаў і прыпамінаў сьвету аб іхнай няволі, чым здабыў сабе ўдзячнасьць гэтых народаў. Праўда, фатальная жэнэўская канфэрэнцыя куртуазыйных ухмылак, якую спрытна выкарыстала бальшавіцкая прапаганда, пашкодзіла папулярнасьці Айзэнгаўэра сярод народаў Усходняе Эўропы — усё-ж можна спадзявацца, што шматлікая эміграцыя з гэтых краінаў будзе галасаваць за яго й цяпер. А гэта паважны працэнт галасоў. Тым больш, што Айзэнгаўэр выдатна спрычыніўся да ўпушчэньня ў Амэрыку вялікай колькасьці палітычных эмігрантаў, якія гібелі ў ДП-лягерох Эўропы.

Гэтыя й іншыя меркаваньні дазваляюць спадзявацца, што ў лістападзе слон — сымбаль рэспубліканцаў, яшчэ раз пераможа дэмакратычнага ішака . . .

**пс**



ЯКУБ КОЛАС
(3. 11. 1882 — 13. 8. 1956)

# Дэманстрацыя савецкага каляніялізму

Камуністычная верхавіна давяла сваю палітычную двудушнасьць да нябывалага ўдасканаленьня. З аднаго боку, мы чуем сталы барабанны агонь камуністычнае прапаганды супраць усялякіх формаў імпэрыялізму й каляніялізму — быццам-бы за поўную гаспадарчую й палітычную сувэрэннасьць нацыяў. У запраўднасьці аднак, мы зьяўляемся сьведкамі сталага разросту савецкага імпэрыялізму й каляніялізму у памерах, ня сустраканых яшчэ дасюль у гісторыі сьвету.

Крамлёўская верхавіна сьведама дазваляе паасобным нацыям паказваць розныя вонкавыя праявы іхнае апрычонасьці: карыстацца роднаю моваю, есьці нацыянальныя стравы, танцаваць народныя танцы, сьпяваць народныя песьні, вывешваць нацыянальныя сьцягі, граць ці пяяць нацыянальныя гімны, выбіраць нацыянальнага прэзыдэнта і назначаць хоць-бы й 36 нацыянальных міністраў ды навет адзяваць мясцовыя арміі й паліцыі ў іхныя нацыянальныя ўніформы. Усё гэта мае быць выяўленьнем нацыянальнае незалежнасьці.

Але фактычна, усё гэта камуністыя трактуюць як чыста вонкавую бутафорыю, і сьведама яе нават разьвіваюць і дыфэрэнцыююць, але толькі да таго часу, пакуль моцна трымаюць галоўныя пазыцыі для панаваньня над народам.

Да такіх галоўных пазыцыяў належыць непадзельны кантроль над гаспадарчымі рэсурсамі, формамі й зьместам вытворчасьці ды разьмеркаваньнем дабра ўнутры народаў і між народамі. Разьвіваючы найстараньней усялякую незалежніцкую нацыянальную бутафорыю, камуністыя тым уважлівей прыкрываюць і маскуюць праявы гаспадарчае залежнасьці й эксплятатацыі гэтых-жа народаў. Гэтым, між іншага, і паясьняецца нехаць камуністых да праверанае статыстыкі, да публікацыі абсалютных лікаў ды забарона ўгляду ў балянс сапраўдных прыходаў і расходаў камуністычнага рэжыму.

Гэтым таксама паясьняецца, што ад 18-га да 25-га травеня сёлета, бадай незаўважна для шырокага сьвету, у Ўсходнім Бэрліне адбылася адна з найважнейшых міжнародных канфэрэнцыяў пасьляваеннага часу. Тут адбыла свой пленум г. зв. «Рада ўзаемнае гаспадарчае дапамогі»» камуністычнага блёку. Канфэрэнцыяй кіраваў заступнік старшыні Рады міністраў СССР Сабураў. У склад Рады ўваходзіць Савецкі Саюз, Польшча, Чэхаславаччына, Вугоршчына. Румынія, Баўгарыя, Альбанія і Ўсходняя Нямеччына. Канфэрэнцыя Рады была паклікана да двух заданьняў: папершае, скаардынаваць новыя пяцігодкі, якія ад 1956 году адначасна пачаліся ўва ўсіх названых дзяржавах, і, падругое, падзяліць гаспадарчыя функцыі. якія названыя дзяржавы, пад кіраўніцтвам і кантролем Крамля, павінны выконваць у рамках аднае з гаспадарчага гледзішча, суцэльнае камуністычнае імпэрыі.

Такім чынам, адным дзяржавам прызначана рабіць націск на разьвіцьцё спэцыяльнага тыпу заводаў, іншым загадана ўзмоцнена разьвіваць хімічную

(Заканчэньне на 2-ой бачыне)

# Літаратурны Дадатак

***Дзеля ўшанаваньня сьветлай памяці вялікага беларускага паэты й пісьменьніка ЯКУБА КОЛАСА, памарлага 13 жніўня 1956 г., прысьвячаем ягонай творчасьці гэты «Літаратурны дадатак»***

**Ст. Станкевіч**

## *Якуб Колас*

**(3. 11. 1882 — 13. 8. 1956)**

Беларускае нашаніўскае адраджэнства разьвівалася галоўным чынам у галіне літаратурнай, якая ня была мастацтвам для самога мастацтва ані ў разуменьні стваральнікаў ейных, ані ў успрыйманьні чытачамі, але выконвала нацыянальныя й грамадзкія функцыі ў найшырэйшым і найглыбейшым значаньні гэтага слова. Нацыянальныя й сацыяльныя лёзунгі, заклікі й ідэі гэтага адраджэнства канкрэтызаваліся галоўна ў творах мастацкае літаратуры і ў такой форме пашыраліся сярод народных масаў. Такім чынам, нашая мастацкая літаратура нашаніўскага пэрыяду, — як і пэрыяду наступнага — была ня толькі вызначальнікам культурнага адраджэньня, разьвіцьця й росту беларускага народу, але ў роўнай, а мо нат і большай, меры ягонага адраджэньня нацыянальнага, сацыяльнага, а навет і палітычнага.

Гэтая ўнівэрсальная роля нашае літаратуры нашаніўскага пэрыяду найбольш шырака і, можна сказаць, найбольш усебакова праявілася ў творчасьці двух найбуйнейшых яе прадстаўнікоў і стваральнікаў — Янкі Купалы і Якуба Коласа. Абодвы яны равесьнікі (радзіліся ў 1882 г.), абодвы амаль раўначасна пачалі пісаць і друкавацца (Купала ў 1905, а Колас у 1906 г.), абодвы былі цесна зьвязаныя з « «Нашай Нівай» і ейным ідэялягічным кірункам ды абодвы бадай аднолькава рэагавалі на вонкавыя палітычныя абставіны, у якіх ім было суджана жыць і тварыць.

Ня гледзячы на гэтыя вонкавыя падабенствы й супольнасьць абодвых аўтараў, паводля характару сваей творчасьці яны значна між сабою розьніліся ў літаратурна-мастацкім сэньсе. Дзякуючы ідэйнай глыбіні, эмацыянальнай магутнасьці і вялізарнай сіле ўзьдзейваньня сваей творчасьці, Купала стаўся агульнанародным трыбунам, прарокам нацыянальнага адраджэньня і духовым правадыром беларускага народу, і ў гэтым галоўная роля й значаньне ягонае творчасьці. Колас, чула адклікаючыся таксама на нацыянальныя зьявы беларускага народу, у васнаўным аднак быў незраўнаным мастаком беларускага краю й ягонае багатае прыроды, а таксама выдатным адтваральнікам псыхалёгіі беларускіх сялянскіх тыпаў. У сувязі з такім адменным характарам творчасьці абодвых паэтаў быў і адменны спосаб рэагаваньня на апрацоўваную імі тэматыку.

Хаця творы Коласа ў бальшыні зьяўляюцца паводля формы эпічныя, аднак у сваей творчай істоце паэта быў перадусім лірык. Купала, апрача сваіх асноўных лірычных твораў, пісаў і эпічныя паэмы ды творы драматычныя. Але і гэтыя апошнія былі фактычна тэй-жа лірыкай, уціснутай у эпічныя ці драматычныя формы. Паколькі, аднак, лірызм Купалы, як паэты-трыбуна, зьяўляўся нязвычайна магутным, заклікальным, нярэдка дынамічным, патолькі Коласаўскі лірызм вызначаецца асаблівай пяшчотнасьцю й духовай цяплынёю. У гэтым выпадку можна было-б сказаць, што Купала сваімі вершамі фармаваў волю й перакананьні чытача, тады калі Колас прамаўляў перадусім да ягонае пачуцьцёвасьці.

Падабенстваў і розьніцаў між абодвымі паэтамі можна знайсьці вельмі многа. Але й прыведзеныя намі дастаткова паказваюць, што Колас у ніякім выпадку ня быў паўтарэньнем Купалы ці наадварот, але адзін другога дапаўнялі. Гэта былі дзьве магутныя індывідуальнасьці, у многім розныя й адменныя, якія сваімі творамі выпаўнілі асноўны зьмест нашае нацыянальнае літаратуры пэрыяду нашаніўскага й пазьнейшых гадоў аж да часу, калі на зьмену нашаніўства прыйшла новая выдатная пара разьвіцьця нашае мастацкае літаратуры, пара «ўзвышэнства», бязьлітасна спыненага, падобна як і свабодная творчасьць Купалы й Коласа, бальшавіцкім тэрорам у жахлівыя трыццатыя гады.

*

Першыя вершы Коласа, падобна як і Купалы, зрадзіліся пад уплывам рэвалюцыі 1905 году й запладняліся ейнымі сацыяльнымі ідэямі. Пазьней, у пэрыяд Сталыпінскай рэакцыі, Коласаўскай паэзіі, падобна як і вершам Купалы тае пары, былі ўласьцівыя ноткі глыбокага пэсымізму, аб чым, між іншым, сьветчыць ужо сам загаловак выдадзенага ў 1910 годзе першага зборніка вершаў Коласа «Песьні Жальбы».

У той час, калі між 1910 годам і першай сьветавай вайной Купала дасягае вышыняў паэтычнае сьпеласьці і ідэйнае глыбіні, і творчасьць Коласа ўступае ў пэрыяд буйнага росту як з гледзішча колькаснага, гэтак і мастацкай якасьці. У гэтым часе Колас распачаў два вялікія манумэнтальныя творы — паэму «Новая Зямля» й паэму «Сымон Музыка». Але ня гэтыя творы, што былі толькі распачатыя й праца над якімі хутка была на доўгі час закінутая, вызначаюць літаратурнае аблічча Коласа ў часе перад першай сьветавай вайной. Гэтую вызначальную ролю для творчасьці Коласа гэтага часу згуляла ягоная мастацкая проза.

Выдадзеныя ў Вільні ў 1912 годзе яго «Апавяданьні» і ў 1914 годзе вялікі зборнік мастацкай прозы «Родныя Зьявы» займаюць асабліва важнае месца ў нашай літаратурнай творчасьці нашаніўскай пары. Паколькі Ядвігіна Ш. звычайна ўважаем пачынальнікам беларускай мастацкай прозы, патолькі Коласу або Тарасу Гушчы, як ён падпісваў тады і нейкі час пазьней свае празаічныя творы, выпала на долю быць яе стваральнікам. Зьмешчаныя ў вабодвых зборніках апавяданьні адказваюць усім асноўным вымаганьням празаічнага твору: яны вызначаюцца цікавасьцю сюжэту, жывым і натуральным разьвіцьцём акцыі, удалай яе матывацыяй, умеласьцю кампазыцыі, пластычнасьцю й сакавітасьцю апісаньняў ды індывідуалізацыяй і ўскрыцьцём глыбокіх псыхалягічных перажываньняў пэрсанажаў. Першыя Коласавыя апавяданьні паказалі, што ў беларускай літаратуры паявіўся празаік выдатных мастацкіх здольнасьцяў.

*

У гады першае сьветавае вайны творчасьць Коласа, падобна як і Купалы ды амаль усіх іншых беларускіх паэтаў, замаўкае, каб пасьля заканчэньня ваенных падзеяў, тэатрам якіх заўсёды была Беларусь, абудзіцца з новай сілай.

Калі для Купалы быў у гэтым часе найбольш плодным 1918 год, дык для Коласа 1921 і наступныя гады, калі ён вясной 1921 году вярнуўся з Расеі на бацькаўшчыну ды на стала асеў у Менску. У гэты час паэта інтэнсыўна працуе над «Новай Зямлёй» і «Сымонам Музыкам», даводзячы іх да канца, піша вялікую паэму «На шляхох волі», першую частку сваей трылёгіі — повесьць «У палескай глушы», кароткія апавяданьні, пры гэтым шмат алегарычных, якія, разам з напісанымі раней, выпаўнілі выдадзены ў 1921 годзе зборнік «Казкі жыцьця», а таксама шмат лірычных вершаў, што ўвайшлі ў выдадзены ў 1922 годзе вялікі зборнік «Водгульле». У гэты пэрыяд творчасьць Коласа дасягае свайго мастацкага зэніту, а некалькі разоў перарэдагоўваная ягоная паэма «Сымон Музыка», у канчальнай рэдакцыі выдадзеная ў 1925 годзе, зьяўляецца каштоўнай пэрлай ня толькі ў творчасьці Коласа, але і ўва ўсей нашай літаратуры.

У эпічных творах Коласа гэтага пэрыяду, а так-жа ў выдадзенай у 1933 годзе повесьці «Дрыгва» знайшлі найбольш шырокае й сакавітае апісаньне абразы й зьявы беларускае прыроды й прыгожыя краявіды Беларусі. Трэба адцеміць, што ніводзін з нашых паэтаў і пісьменьнікаў ня здолеў дагэтуль даць такіх поўных і высокамастацкіх апісаньняў вонкавага выгляду Беларусі, як гэта зрабіў Колас. Апрача гэтага, у сваіх эпічных вершаваных і празаічных творах пісьменьнік шырака апісаў жыцьцё й быт беларускага сялянства і паказаў вялікую колькасьць беларускіх тыпаў, глыбака зьіндывідуалізаваных і псыхалягічна праўдзівых. А ўсе гэтыя апісаньні зьяўляюцца прасякнутыя мяккім і шчырым лірызмам, як вынік бязьмежнай любові паэты да роднага краю й народу. Як у эпічных творах, гэтак і лірычных Колас або беспасярэдна або пры помачы алегарычных абразоў праводзіць беларускія нацыянальныя ідэі, супярэчныя й варожыя ідэям камуністычнага інтэрнацыяналізму.

Дачыненьні Коласа да бальшавізму з самага пачатку былі нэгатыўныя й варожыя. Гэтай варожасьці паэта даў выражэньне ў сваіх творах, спачатку адкрыта, пазьней замаскавана пад рознымі формамі сымболяў і алегарычных канцэпцыяў, ня менш войстрае й шырокае, чымся й Купала. Ува ўсіх пералічаных творах знаходзім выразныя антыбальшавіцкія акцэнты. Савецкая рэчаіснасьць ніяк не магла задаволіць паэты, які, як і раней, мроіць толькі аб вольнай Беларусі. На тэму Коласаўскага антыбальшавізму й ягонага доўгага і ўпорыстага супраціву саветызацыі можна напісаць вялікую навуковую працу, што ўжо часткава й зрабіў ведамы дасьледавальнік беларускай літаратуры Ант. Адамовіч у выдадзенай у мінулым годзе мюнхэнскім Інстытутам для Вывучэньня СССР працы «Якуб Колас у супраціве саветызацыі». Таму ў гэтым артыкуле антыбальшавізм Коласа для паўніні вобразу пакажам толькі на прыкладзе некалькі ягоных, найбольш характэрных у гэтым сэньсе вершаў.

Адразу пасьля кастрычніцкай рэвалюцыі Колас у канцы 1917 году піша й друкуе верш «Да працы», у заключнай звароцты якога чытаем:

> Дапамаж Бог нам у прыгодзе!  
> Ні царскі біч, ні прышлы хам, —  
> Хай будзе лад ў сваёй гасподзе  
> Стварацць народ-ўладарац сам.

«Прышлы хам» ня можа тут абазначаць нікога іншага, як толькі бальшавікоў, аб чым, між іншым, сьветчыць і тое, што ў пазьнейшых савецкіх выданьнях гэты «прышлы хам» не ў папад ужо заменены «панскім хамам». Такім чынам гэтае абазначэньне бальшавікоў, як «прышлых хамаў» згукваецца з Купалаўскім іх абазначэньнем, як «раскованых рабоў» (у вершах з 1918 г. «На Сход» і «Крыўда»), якія «крываўляць» беларускі народ і ягоную «Бацькаўшчыну... рэжуць на кускі».

Войструю й выразную алюзію супраць бальшавізму мы знаходзім і ў напісаным у 1921 годзе вершы «Родныя малюнкі»:

> Кавалі другія,  
> А ланцуг той самы —  
> Песьні ўсё старыя  
> Неаджытай гамы.

З нагоды гэтага верша казённы бальшавіцкі крытык Бэндэ ў 1931 годзе пісаў: «Апяваючы «Родныя малюнкі», Якуб Колас перамогу рабочае клясы і ўстанаўленьне пралетарскай дыктатуры на Беларусі ўспрыймае як зьмену аднаго прыгнятацеля другім, як працягваньне старой песьні» («Маладняк», № 5 за 1931 г., бач. 107).

Але найвайстрэй праявіўся антыбальшавізм Коласа ў ведамым ягоным вершы «Беларускаму люду», напісаным у тым-жа 1921 годзе. На гвалт падзелу Беларусі між бальшавікамі й Палякамі Рыскім трактатам паэта адказаў такімі войстрымі словамі пратэсту:

> Хіба забудзем мы тыя межы,  
> Што правадзілі бяз нас?  
> Раны глыбокі, ох, яшчэ сьвежы!  
> Помсты агонь не пагас.
>
> Нас падзялілі — хто? Чужаніцы,  
> Цёмных дарог махляры,  
> К чорту іх межы! К д'яблу граніцы!  
> Нашы тут гоні, бары!
>
> Будзем мы самі гаспадарамі,  
> Будзем свой скарб ратаваць.  
> Годзе тэй крыўды! У ногу з братамі  
> Пойдзем свой край вызваляць.

У вершы гэтым паэта ня робіць ужо ніякай розьніцы між Палякамі й бальшавікамі. І адныя, і другія тыя-ж самыя «чужаніцы» і «цёмных дарог махляры». Пры гэтым, Колас тут не абмяжоўваецца толькі слоўным пратэстам, але й заклікае свой край вызваляць», заклікае выразна ў далейшых радкох беларускі народ да збройнага паўстаньня супраць абодвых акупантаў у вабодвых частках падзеленага імі краю: «Люд вызваляйся, рві свае путы». Навет Купала, які ў той час таксама шырака праяўляў сваю варожасьць да бальшавізму, як чужога акупацыйнага рэжыму, не здабыўся на такую вайстрыню пратэсту і на нядвузначныя заклікі да збройнага паўстаньня.

Гэтак ад пачатку ўстанаўленьня савецкай улады ў Беларусі аж да першае

**(Заканчэньне на 5-ай бачыне)**

**Якуб Колас**

## *Малады Дубок*

### I

— Ну, і людзі! — гаварыў сам сабе Максім Заруба: — ну, украў, ну, сьсек, хай цябе ліха сячэ; ды не рабі-ж ты зьдзек чалавеку, не рабі так, каб кажнаму кідалася ў вочы тваё зладзейства, гіцлю!

Максім старанна аглядаў сьляды нядаўнай кражы ў яго абходзе. Высокі, у палавіну чалавека, дубовы пень ясна выдзяляўся сярод дзеравяк і сьвяціў сваім сьветла-жоўтым верхам і сьвежымі трэскамі вокал, а шырокая, разложная верхавіна і адсечаныя сукі пазіралі так невясёла, так сумна, бы тыя пакінутыя бацькам дзеці. Зірнуўшы ўгару, Максім угледзеў маладую бярэзіну з абламанымі галінкамі. Гэта дуб, звалены бязжаласным тапаром, кідаючыся, чапіў яе сваімі крэпкімі сукамі.

У лесе было ціха і маркотна, толькі ўгары стаяў глухі шум старых хвой і ялін. Высокія асіны і бярозы прылучалі зрэдка і свой голас да гэтага шуму, як часамі дужэй падыхаў сыры халодны вецер і варушыў іх голае вецьце. На гэтым месцы, дзе рос дуб, мала назначылася прастору, і маладыя высокія елкі ўжо разгарнулі свае кашлатыя зялёныя лапы і занялі месца дубу. Так і за сталом жыцьця, дзе сядзіць цесная людзкая сям'я, ня пустуе месца выхвачанага сьмерцю селяніна.

Максім трывожна азірнуўся вокал, зьняў з-за плеч сваю старасьвецкую стрэльбу і паставіў каля хвоі; дастаў з-за пояса сякеру і пачаў замятаць сьляды няўпільнаванага злодзея. Ён ацерабіў верхавіну, пасьцягаў сукі ў гушчар, сьсек пень каля самай зямлі, завалок яго далей ад дарогі, пад вывараць, а тое месца, дзе быў пень, закрыў зялёным мохам. Максім сам у гэту мінуту быў крыху злодзеем. Але яму больш нічога не заставалася рабіць, як прыкрыць сьлед гэтай кражы, каб самому не нагарэла ад лясьнічага. Кончыўшы работу, Максім адышоўся крыху і азірнуў сваю працу, ці няма яшчэ якога знаку, па катораму можна было-б зацеміць, што тут украдзены дуб. Усё было прыбрана гладка, але Максіму здавалася, што варта толькі зірнуць аб'ежчыку, каб адразу прыкмеціць, што не хватае аднаго дуба. А можа аб'ежчык раней яго аглядзеў гэты недагляд і ўжо вядома ў лясьніцтве аб гэтай пакражы.

— І выбера-ж часіну, паганец! — зноў разважаў з сабой Максім.

— Ну, каб папаў. Гужы, лейцы — усё пасек-бы.

Максім ніяк ня мог супакоіцца. Ён вышаў на дарогу, куды вёў сьлед ад калёс. Але далей трудна было разабраць, куды ён пашоў: ці мала едуць па дарозе ўва ўсе канцы? Максім пастаяў, патупаў, як-бы разьбіраючы важную справу. На душы ў яго было цэлае пекла. Злосьць на таго, хто сьсек дуб, хто, як сумыслу, як на зьдзек яму, зрабіў гэту кражу, ніколечкі не клапоцячыся схаваць канцы; далей — страх перад лясьнічым, страх за страту куска хлеба; даўно ўжо капаецца пад яго аб'ежчык, ня раз дакляровываў яму лясьнічы прагнаць яго зь месца. Усе гэтыя думкі і пачуваньні і рабілі тое пекла, што было на душы Максіма.

— І хто-ж-бы мог зрабіць гэта? — Максім пералічыў колькі гаспадароў зь вёскі, каторыя былі ў яго ў вялікім падазрэньні. Але, не злавіўшы, не кажы, што злодзей.

Максім яшчэ раз прышоў на тое месца, дзе рос яшчэ ўчора прапаўшы дубок. Як дарагі нябожчык, стаяў ён у вачох беднага лясьніка. Прыкрыўшы камель яловымі лапкамі, Максім памалу пасунуў лесам.

Увесь гэты дзень, цэлы вечар і ноч ня меў Максім супакою. Навет есьці не хацелася яму. Нейкі страх і трывога душылі яго. Кінуцца за весьніцы на дарогу сабакі, забрэшуць на каго, ці так што здаецца іх сабачаму розуму, Максім чуў, як у сярэдзіне ў яго нешта траслося і яму здавалася, што гэта пэўна ідзе Марцін з каморы ад лясьнічага з наказам зьявіцца ў кватэру. Але сабакі, пабрахаўшы, змаўкалі і патрывожаная ноч яшчэ цяжэй насядала на халодную сырую зямлю і яшчэ маркотней шумеў над рэчкай аголены лес. Старая вярба, стоячы над самай хатай, шумела і хвастала галінамі па страсе, і як на зло Максіму, гаманіла пра пакражу.

Стукне вецер у ваканіцу, Максім увесь пацяпаўся: яму думалася, што гэта лясьнік, ці аб'ежчык.

### II

Андрэй Плех даўно ўжо меў сабе на прымеце дубок у лесе. Яшчэ летам, соваючыся з каробкаю па грыбох, насунуўся ён на гэты дуб. Як чалавек, каторага агарнулі грэшныя жаданьні, Андрэй, наўперад азірнуўся і пачаў аглядаць важнецкае дрэва. Высокае, роўнае, выноснае, як точанае, яно, здавалася, сумыслу тут вырасла на пакусу чалавека. «А пся кроў яго», цмакаў Андрэй: «от былі-б восі! А якія хвацкія вышлі-б паліцы на сохі!» (Андрэй быў майстар па часьці сох). Ды не так-то лёгка ўхопіш яго тут: сьсячы, пападзіся, — такі табе штрап закоціць земскі, што і кароўкаю не адапхнешся. І Андрэй, яшчэ раз акінуўшы вокам дубок, уздыхнуў і паплёўся дамоў. На ўсякі выпадак ён замеціў гэта месца. Скора пачалося жніво і Андрэй забыўся аб дубку, але, як на грэх, у колах разышліся сьпіцы. Трэба было думаць, як справіць новыя колы. На калодкі і вабады Адрэй меў пра запас бярэзіну, добрую, баравую, чачоткаватую бярэзіну з казённага лесу. Гэта Мікола Сіняўскі ўдружыў яму. А дзе-б узяць дубінкі на сьпіцы? І адразу ў яго вачох стаў малады дубок, што бачыў у лесе, зьбіраючы грыбы. Бадай ня кажны дзень думкі Андрэя вярцеліся каля гэтага дубка. Кепска толькі, каб яго качкі, калі пападзешся зь ім. У сваім жыцьці Андрэй кіраваўся прыказкаю: «Не бяры чужога і ня бойся нікога». Але во прыпёрла так, што прыходзілася касаваць гэты мудры кірунак. Праўда, што ў лесе красьці ня грэх. Гэта ня тое, што залезьці да чалавека ў хату. І хто ў лесе ня злодзей, той у дому не гаспадар. Лес — Божы — Бог яго росьціць і Бог гадуе. А князя чорт ня возьме, калі ён, Андрэй, сьсячэ адзін дубок. Так разважаў вечарамі Андрэй, пыхкаючы люльку.

Раз, пад вечар — гэта было ў нядзелю — Андрэй ішоў зь места. І так неяк рабілася, што ногі Андрэевы самі пашлі па тэй дарозе, каля каторай стаяў гэты шальмоўскі дубок. Андрэй ня мог стрымацца, каб не даведацца свайго даўнейшага знаёмага. Лес быў ужо зусім бязь лісьця і малады дубок выглядаў цяпер яшчэ раўнейшым, яшчэ прыгажэйшым.

— Ах, злодзей! — гаварыў, цешучыся, Андрэй і аглядаў дубок.

Ідучы дамоў, Андрэй вылічаў, калі схадней яго сьсеч. Квадра месяца пры гэтым стаяла ў Андрэя на першым пляне. Праз колькі дзён будзе маладзік. Ось тады ён і зызьне яго.

Якраз прад Усімі Сьвятымі, натачыўшы сякерку, Андрэй шаптаў свайму сыну:

— Запражэш каня і пад'едзеш пад Доўгі Лужок. Я буду там чакаць цябе. Ды глядзі, калі хто спытае, куды едзеш, скажы — па каноплі.

Андрэй выбраў такія сьцежкі, дзе-б яго ніхто не спаткаў (асьцярога не пашкодзіць) і ішоў, прыгнуўшы галаву. Аднак, чым бліжэй падходзіў ён да лесу, тым больш чуў ён страх. А змрок густы, халодны, няпрыветны, нярухома облягаў зямлю. Ціха, глуха. Хоць-бы дзе зык чалавечага голасу. І нейкая жуда ахапіла Андрэя. Пачуваньне маркаты і адзіноты агарнула яго. Андрэй азірнуўся назад, на сяло. Скрозь цемрадзь прыветна сьвяціліся вокны мужыцкіх хат чырвонымі і бледнаватымі плямкамі. Там сядзелі людзі і на душы ў іх была згода. Толькі ён, як злодзей, крадзецца адзін скрозь гэты змрок, прыхільны хаўрусьнік кажнага злодзея. Андрэй пачынаў каяцца, што выбраўся на гэту справу. Лепш-бы паставіць кварту за кусок дубніцы — сам выпіў-бы чарку і быў-бы сьмел і спакойны. І яму хацелася, каб хто перашкодзіў яму цяпер, каб мець законнае права вярнуцца дамоў. Так было на душы Андрэя; ногі яго ўсё несьлі і несьлі ў гэты страшны, пануры лес, дзе цяпер так цёмна і жудасна. Яшчэ гусьцейшы і цяжэйшы змрок апрануў Андрэя, як ён уступіў у лес. Падышоўшы з поўвярсты, Андрэй спыніўся. Во тая хвоя зь вехаю, ад каторай трэба ступіць колькі крокаў направа. Патупаўшы, Андрэй сяк-так намацаў гэты дубок, каторага старажыў ня толькі Максім, а яшчэ пільнавалі і другія старажы, каторыя былі ў самым Андрэю — страхі. Андрэй прыслухаўся. Лес маўчаў. Можа ён зацікаваўся, што будзе рабіць тут гэты чалавек, чаго ён прышоў сюды варушыць і трывожыць яго цяжкі, блізкі да сьмерці сон. І было штось страшнае ў гэтым нямым спакою лесу і гэты страх перадаваўся Андрэю: ён стаяў ціха, баяўся кашлянуць і павольна адводзіў яловыя лапкі. Калі-некалі жалобна шорхаў сухі, завяўшы ліст, адрываючыся зь дзерава і кідаючыся на сыры дол.

— Ну, што будзе, то будзе.

Андрэй узяў сякеру, хацеў перахрысьціцца, ды стрымаўся: гэта справа не сьвятая, і ён не адважыўся прызваць на помач імя Бога. Сякера высака паднялася ўгару. і пачуўся першы стук. Войстрая сталь глыбака ўрэзалася ў маладое дрэва, і гэты першы зык быў падобны да цяжкага, адрывістага кашлю,

К. Рамановіч

# Дзядзька Колас

На магілу нябошчыка з пашанай кладуць вянкі з жывых кветак. А пройдзе час — гэтыя кветкі зьвянуць, іх зьменяць сьвежымі. Толькі мастацкае слова застанецца нязьменным. Яно жыве й пасьля сьмерці свайго творцы.

Калі мы прачытаем толькі дзьве паэмы «Сымон Музыка» і «Новая Зямля», дык ня трэба больш нічога казаць: Якуб Колас жыве і будзе заўсёды жыць у памяці народу, бо ён — запраўды народны паэта.

✳

Памятаю, пасьля нейкага спэктаклю, група беларускіх пісьменьнікаў вячэрала ў вадным зь менскіх рэстаранаў. За сталом сядзелі Купала, Колас, Гартны, Чарот, Шукайла і яшчэ колькі. Настрой быў вясёлы.

Жартавалі.

— Ну, як, Паўлюк, твая справа з футурызмам? Пішаш? — падсьмейваўся нехта з Шукайлы. А той жартам:

— Гэта справа будучыні. Я цяпер пішу артыкул супраць старога рызьзя ў паэіі.

Якуб Колас зьлёгку ўсьміхнуўся і сказаў: — Паўлюк мае наўвазе мяне зь Янкам.

А Шукайла грымеў гучным голасам: — Сучаснасьць выкіне старое на сьметнік.

Можна было-б падумаць, што ён і запраўды не цаніў клясыкаў. А колькі разоў мне даводзілася слухаць, як Шукайла з асаблівым захапленьнем, артыстычна чытаў вершы Купалы й Коласа.

І аднойчы ён шчыра сказаў свайму прыяцелю:

— Якуб Колас — народны паэта. Гэты гонар куды большы, чымся насіць імя пралетарскага паэты. Міхасі й Цішкі пойдуць у нябыт, а Колас застанецца вечным.

✳

У Пэдагагічным Тэхнікуме імя Ўсевалада Ігнатоўскага Якуб Колас быў выкладчыкам мэтодыкі школьнага выхаваньня. Студэнты любілі яго. Часта, бывала, яго прасілі: — Дзядзька Колас, прачытайце што-небудзь з вашых твораў... зь нядрукаваных...

Якуб Колас меў добры, лагодны характар і на просьбу моладзі ня мог адмовіцца.

— Што з вамі зробіш. Прачытаю. А вы ўжо сёньняшнюю лекцыю па маёй кніжцы падрыхтуеце.

Колас паказвае ў падручніку бачыны, — дзе й што трэба вывучаць. Пасьля ён бярэ свой партфэль, дастае рукапісы. Паволі перабірае іх. Нешта ціха сабе гаворыць, і ўрэшце спыняецца на адным стусе лістоў.

У клясе цішыня і ўвага. Студэнты слухаюць урывак з аповесьці.

Ці раз бывала, што й сам Якуб Колас, уваходзячы ў клясу, прапанаваў:

— Хочаце паслухаць. От у мяне ёсьць нешта новае...

У клясе ўзьнімаецца шум радасьці й захапленьня. І вось хвіліна — адшпільваецца партфэль. На стале рукапіс. Колас чытае. А студэнты шчасьлівыя тым, што чуюць жывое слова жывога паэты.

✳

Аднойчы паклікаў мяне Красоўскі, студэнт пэдтэхнікуму: — Хадзем!

Я пытаюся ў яго: Куды?

— А вось убачыш, — сказаў ён і ўзяў мяне пад руку.

Мы пайшлі ў гарадзкі сад. Было ў ім бязьлюдна і шэра, як заўсёды бывае на прадвесьні.

Красоўскі сказаў мне:

— Вунь за садам, выйдзем праз тую браму, недалёка стаіць дом. У ім жыве наш Колас. Гэты дом нядаўна пабudаваны... Бачыш, на вузор амэрыканскі. Зірні толькі на вокны! Якія шырачэзныя!

Мы ўжо стаялі паблізу дому. Красоўскі нешта балбатаў аб арыгінальнасьці архітэктуры, аб мадэрным стылю, аб выгодах гэтага памешканьня. І раптам штурхнуў мяне ў локаць:

— Чаго мы тут стаім? Зойдзем у хату: у госьці да дзядзькі Коласа.

Гэтая сьмелая прапанова мяне зьдзівіла. Як-жа ў госьці? Мы бедныя студэнты, яму ні сваякі, ні сябры, ні блізкія знаёмыя. Мы знаем Якуба Коласа, як паэту і настаўніка. Але гэта не дае нам права без дай прычыны йсьці да яго на кватэру.

Я хістаўся, Красоўскі красамоўна пераконваў мяне:

— Твае развагі беспадстаўныя. Ён наш пэдагог. Мы яго паважаем, любім ягоныя творы. Дык чаму ня можам яго наведаць? Я от у яго часта бываю. Вельмі-ж міла ў ягонай сям'і. Нас там, браце, і пачастуюць добра. А што галоднаму студэнту больш трэба? Ну, ды пойдзем разам.

Відаць, апошні аргумэнт быў надта важкі, пераканаўчы, і таму зламаў маю ўпартасьць.

Дзьверы адчыніла гаспадыня.

— О, заходзьце! Добры дзень!

— Добры дзень! Я свайго сябру прывёў, — казаў весела Красоўскі. — Вось, кажу, хадзем да дзядзькі Коласа. А ён нешта саромеецца. Ледзь угаварыў...

— Вось і добра, што зайшлі! — з ласкавай усьмешкай прывітала нас Коласава жонка. — У нас, бачыце, проста. Заходзьце, калі ласка.

Гаспадыня павяла нас на другі паверх. Насустрач — Якуб Колас. Ягоная лагодная ўсьмешка й дабрадушнасьць разьвеялі маю ніякаватасьць.

Мы прайшлі два-тры пакоі: некалькі крэслаў, круглы столік і голыя сьцены. І ў гэтай простай мэблі, ува ўсім небагатым абсталяваньні мы ўбачылі сялянскую сьціпласьць. З намі гутарыў вясковы дзядзька, мудры чалавек, пясьняр народу, якога ведае ўся Беларусь і слава якога йдзе далёка за межы нашае бацькаўшчыны.

З намі гутарыў дзядзька Колас! Чалавек бо старэйшы і такі знаны, а трымаўся з намі, як з роўнымі. Нам гэта імпанавала. Мы, маладыя хлапцы — кажнаму было па 18 год — хавалі ў сабе радаснае хваляваньне.

Гаспадыня запрасіла нас гарбату піць. Красоўскі хітравата міргнуў мне вокам: бачыш?

На стале стаяла талерка зь піражкамі хатняга гатунку. У шкляных сподачках вішнёвая мармаляда.

Мы добра правялі вечар. На разьвітаньне Колас мне сказаў:

— Вось і пабачылі, як я жыву. Людзі хочуць будаваць рай на зямлі. Дык я ўжо, бачыце, сабе збудаваў.

Міжволі гэтыя словы мне прыгадалі паэму «Новая Зямля», у якой пакладзена сялянская ідэя: прыдбаць свой уласны кут.

✳

У сакавіку 1926 году пачаўся судовы працэс над Лістападам. Уся беларуская

(Заканчэньне на 8-ай бачыне)



Якуб Колас у вапошніх гадох жыцьця

# ЯКУБ КОЛАС

(Заканчэньне з 4-ай бачыны)

хвалі масавага нішчэньня беларускага нацыянальнага жыцьця ў пэрыяд 1929—1930 гадоў Колас аставаўся верным беларускім нацыянальным ідэям, варожым бальшавізму, быў беларускім нацыянальным паэтам у найшырэйшым значаньні гэтага слова.

Гэтай нацыянальнай накіраванасьці творчасьці Коласа як да рэвалюцыі, гэтак і пасьля яе ня могуць схаваць і бальшавікі да апошняга часу, калі ўжо паэта, будучы імі маральна стэрарызаваны й духова зломлены, быў змушаны пісаць творы, сугучныя бальшавіцкім ідэям. У выдадзеным у 1954 годзе «Очерке Истории Белорусской Советской Литературы», які дае афіцыйную ацэну беларускай літартуры ў духу абавязваючага палітычнага курсу, Л. Фіглоўскі гэтак піша аб дарэвалюцыйнай творчасьці Коласа: «дарэвалюцыйная творчасьць беларускага пісьменьніка (г. зн. Якуба Коласа — С. С.) выявіла і абмежаванасьць ягонага сьветапагляду. Ён не падняўся ў тыя гады да разуменьня гістарычнай ролі пралетарыяту ў рэвалюцыйным змаганьні, да асэнсаваньня буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі, як неабходнага этапу да пераходу да рэвалюцыі сацыялістычнай» (бач. 201). Падобную дае ацэну Фіглоўскі творчасьці Коласа і першага пасьлярэвалюцыйнага пэрыяду: «пісьменнік не адразу асэнсааў усясьветна-гістарычнае значаньне найвялікшага рэвалюцыйнага перавароту. Яму было ўласьцівае ў першых часох неразуменьне сацыялістычнага характару Кастрычніцкай рэвалюцыі, яе гуманістычнай сутнасьці, яе рухаючых сілаў. Гэта знайшло сваё выражэньне і ў вершах 1921 г. («Покліч», «Беларускаму люду», «Родныя малюнкі», «Цені-страхі» і інш.)».

✳

Стэрарызаваны маральна й зламаны духова Колас становіцца пасьля памятнага 1930 году казённым бальшавіцкім паэтам і аўтарам панэгірычных хваласьпеваў антынароднаму бальшавіцкаму рэжыму. Такую-ж ролю былі змушаныя тады выконваць і іншыя беларускія паэты й пісьменьнікі, што цудам уцалелі ад крывавых бальшавіцкіх чыстак трыццатых гадоў, як Янка Купала, Зьмітрок Бядуля і Кузьма Чорны. Падобна як і гэтыя апошнія, Колас стаўся трагічнай ахвярай найцяжэйшага гістарычнага выпрабаваньня беларускага народу, пакінутага на ласку й няласку маскоўска-бальшавіцкага акупанта, бязьлітаснага ў сваім нішчэньні ўсяго беларускага навет рукамі найлепшых сыноў Беларусі.

А Колас якраз і быў адным з найлепшых сыноў Беларусі, верна служыў свайму народу, палажыў вялізарныя заслугі для разьвіцьця беларускай нацыянальнай літаратуры і гераічна змагаўся супраць варожых сілаў да часу, пакуль гэта было яшчэ магчымым. Гэткім ён астаўся для нас і такім, хіба-ж, астанецца й для будучых пакаленьняў беларускага народу.

Ст. Станкевіч

каторы вырываўся з глыбіні надарваных грудзей сухотніка.

Андрэй, секануўшы раз, адскочыўся ў бок і на момант замёр, прыслухаючыся. Але кругом было так сама глуха і ціха. Зноў узьляцела сякера і пашла латашыць усё часьцей і злосьней. Скора адна палавіна дубка была падсечаная. Андрэй зайшоў з другога боку. З кажным узмахам сякеры дуб слабеў і хістаўся, дрыжэў голымі сукамі і ўсім сваім целам. Во ён чуць пахіліўся, абамлеў і, здавалася, аглядаў месца, дзе-б упасьці. Андрэй упёрся рукой і таўхнуў яго. Голыя сукі крануліся сукоў суседніх дзеравак, як-бы жагнаючыся з жыцьцём, зачапіліся на момант і, аслабеўшы, асунуліся і маладое дзерава цяжка ўпала, застагнаўшы, на зямлю. Андрэй адышоўся і зноў стаў слухаць. Адмерыўшы чатыры тапарышчы па камлю Андрэй зь нейкай злосьцю стаў адсякаць кавалкі дубу. Адсекшы кавалкаў шэсьць, ён пазносіў іх на дарогу. Спадалёк пачуўся глухі стук колаў аб карэньне. Андрэй пашоў на спатканьне сыну.

### III

Яшчэ ніколі не зазнаваў Андрэй такога клопату, як цяпер. Не дарма гавораць людзі: «Хто ўкраў парасё, таму і ў вушох пішчыць».

Прывёзшы да хаты шэсьць кавалкаў дубу, Андрэй да часу паськідаў іх на старану, дзе ляжала яшчэ немалочанае жыта і салома. Прызнацца, Андрэй навет ня рад быў, што сьсек гэты дубок: мала што можа стацца! Быць ня можа, каб хто ня бачыў, як ён пхаўся ў ночы зь лесу. А языкі ў людзей доўгія... Пад уплывам гэтых думак Андрэй быў неспакойны: спаў кепска і часта абуджаўся, прыслухіваўся, што робіцца на двары.

Кажны грук, шум, аброненае кім на вуліцы слова прымушалі трывожыцца і думаць, чорт ведае што. І якая гэта схованка — гумно? Усякі дурань першым дзелам паткне туды свой нос. Тут Андрэю прышлі на памяць тыя здарэньні, калі ў гаспадароў знаходзілі дубкі, бярэзінкі і ўсякія падобныя рэчы якраз у гумнах... Трэба перахаваць, і чым скарэй тым лепей, — покі ня ўзялі яшчэ тропу.

— Што гэта, Андрэй, на цябе сягоньня сну няма? — пытала жонка.

— Так ня сьпіцца.

І, памаўчаўшы, Андрэй сказаў:

— Ведаеш, я ўсё думаю, каб не агледзіліся гэтага дубка.

— Можна-ж схаваць так, каб не знайшлі.

— Ось і я гэта думаю: у гумне якая схованка? А дзе схаваць?

— Схаваеш заўтра — будзе часу. А цяпер сьпі.

Жонка адвярнулася да сьцяны і празь мінуты дзьве заіграла носам. А Андрэй яшчэ доўга ляжаў з адкрытымі вачыма і разважаў. Страшныя думкі лезьлі ў яго галаву. А што, калі хто ўдасьць яго? Прыдзе вураднік, стражнікі з аб'ежчыкам і лясьнікамі, зробляць вобыск і напэўна знойдуць у яго дубок. Зноў Андрэю ўспаміналіся падобныя здарэньні. Моташна рабілася ад гэтых думак. Андрэй усунуўся ў шляпакі, накінуў на плечы кажух і выйшаў на двор. Божа, якая цёмная ноч! Здавалася, неба блізка-блізка нахілілася к зямлі і ціснула яе сваім густым і цяжкім змрокам, і ўсё вокал было так глуха, так нема, усё роўна, як закамянела, або вымерла. Андрэй зірнуў у той бок, дзе быў лес. Яго аж скалыхнула: здаецца, цяпер, каб і золатам абсыпалі яго, ён не пашоў-бы туды; як толькі хапіла ў яго адвагі ісьці туды, у такую цемраж! У сяле было таксамо ціха і глуха, навет сабакі і тыя ўсе змоўклі; відаць, і яны чулі гэты страх магільнай цішы і не адважываліся зрабіць між сабой пераклічку. Толькі ў Яхіма хлявушку забляяла жаласна ягнятка, згубіўшы сваю матку і зараз-жа пачуўся кароткі адказны воклік старой авечкі: «Ідзі да мяне!» Ды часамі ў сьвінушку ціха стагнала праз сон сьвіньня такім змарнелым, стамлёным галаском, усё роўна, як-бы ёй заставалася тры чверці да сьмерці.

Андрэй пастаяў, паслухаў, гэта маўчалівая і страшная ноч не дала яму ніякага адказу і ён пашоў у хату.

«Сягоньня яшчэ можна быць сьмелым, думаў Андрэй, кладучыся на палок і ўкручываючыся ў дзяругу. Покі тое ды сёе, то яшчэ ёсьць часу схаваць, а цяпер можна спаць сьмела». Але Андрэй ляжаў яшчэ з паўгадзіны і думаў, як хітрэй схаваць дубкі. На гэтых думках Андрэй і заснуў. І прысьніўся яму сон. Здаецца, прышоў лясьнік, Максім Заруба, у чыім абходзе ён высек дубок. Прышоў ня злосны, як можна-б чакаць, а надта маркотны. Твар яго быў белы, як-бы вымазаны мукой.

— Адабраў, брат Андрэй, ты ад мяне кусок хлеба! — сказаў Максім, — ад цябе я гэтага не спадзяваўся. — Сказаў, і невядома, дзе дзеўся.

Андрэй стаяў, як аглушаны. Хацеў сказаць слова — язык не варушыўся: хацеў бегчы за Максімам — ногі ня слухалі. І, цяжка застагнаўшы, Андрэй абудзіўся.

Ноч, доўгая, жудасная, трывожная ноч, яшчэ цяжка аблягала зямлю. Толькі што адсьпявалі другія пеўні і сяло ўсё яшчэ спала цяжка і глыбока. Андрэй ляжаў і тросься — так узбунтаваў яго гэты сон і такі ён быў ясны, жывы і страшны. Трудна выказаць, што рабілася цяпер на душы ў Андрэя. За ўсе тыя часы, як ён убачыў гэты пракляты дубок, і аж да цяперашняй мінуты, Андрэй ні разу не падумаў аб тым, што цяпер яму прысьнілася. І ня было прычыны так думаць: ці мала людзі крадуць у лесе? Каб за кажную няўпільнаваную кражу ў лесе выганялі лясьнікоў, то і лясьнікоў ня было-б на сьвеце.

І чаму-ж ён прысьніўся і прысьніўся так нядобра? Цяпер Максім ні на адзін момант ня сходзіў з вачэй Андрэя. Андрэй успомніў, што яны з Максімам калісь сябравалі, разам гадаваліся, разам былі на прызыве і ў вадзін год жаніліся, і ўжо потым разышліся, разышліся не з-за якога ліха, а так — проста, разлучыліся; а сходзіліся — кажны зь іх мог сьмела паказаць вочы адзін другому. І Андрэй першы раз пачуў, што нейкая сьцяна вырасла ў гэту ноч між ім і Максімам. Андрэю было чагось шкода. Чаго? — ён і сам ня ведаў.

Гэта была цяжкая і неспакойная ноч у жыцьці Андрэя.

### IV

— Ну, што ў цябе чуваць? — Парубкі ў лесе няма?

Максім пачуў, што па сьпіне ў яго запоўзалі мурашкі, і нейкі холад прабег па ўсім целе. Маленькае замяшаньне, і Максім цьвёрда сказаў:

— Усё ў парадку.

— У парадку? Ну, то хадзі-ж, я табе пакажу, які ў цябе парадак.

Сказаўшы гэта, аб'ежчык, сярэдніх гадоў чалавек, правая рука лясьнічага і пярвейшая шэльма, скрыва і злосна зірнуў на лясьніка і павёў яго ў лес. Максім увесь задрыжэў. Заложыўшы рукі за сьпіну і крэпка сьціснуўшы стрэльбу, ён моўчкі ішоў за аб'ежчыкам. Ён добра ведаў, куды вядзе яго гэты кат і што хоча паказць яму.

«Вядзі, няхай цябе сьляпога водзяць. Кланяцца табе ня буду і прасіць тваей ласкі ня стану. Што будзе, то будзе, — думаў, ідучы, Максім.

— Ці ня будзеш ласкаў зірнуць, — гаварыў тым часам аб'ежчык, прывёўшы лясьніка на тое месца, дзе колькі дзён назад стаяў дубок. Аб'ежчык добра націкаваў гэта месца і ў яго наўперад усё было разьлічана. Навет яго далікатная прамова да лясьніка была абдумана раней, каб злосна нацешыцца з таго, як будзе выглядаць Максім Заруба, стоячы перад пнём сьсечанага дубу. Але працягнутая рука яго так і засталася: перад імі было гладкае месца і вокал стаялі дзеравы, ды дзеня-дзе тырчэлі абросшыя мохам даўнейшыя пні. Максім пазіраў на аб'ежчыка поглядам чалавека, каторы нічога ня цяміць і чакае тлумачэньня.

Аб'ежчык зірнуў на Максіма. Чуць значная ўсьмешка прабегла па губах лясьніка. Навет елкі, каторым на гэтым месцы было крыху прастарней, здавалася, усьмяхаліся, пазіраючы на аб'ежчыка — такую дурную меў ён міну ў гэту мінуту.

— Што за чорт!? — сказаў ён: — тое самае месца, а дзе-ж пень?

— Мала тут пнёў? — спытаў Максім, стаўшы на прыкрыты мохам пень нядаўна ўкрадзенага дубу і паказываючы рукой на старыя пні. — Ды і сам пан стаіш, як пень, — ня вытрываў Максім, каб не пасьмяяцца з аб'ежчыка.

— Ты мне кпінак ня строй! — крыкнуў аб'ежчык і забегаў вокал лясьніка, як ганчак, вынюхіваючы сьляды. Улучыўшы мінуціну, лясьнік зірнуў адным вокам сабе пад ногі. У вадным месцы мох адхіліўся, і з-пад яго сьвяціўся сьвежы пень. Максім чуць-чуць пасунуў нагу, каб закрыць гэту лысінку. Аб'ежчык, як каршун, зірнуў на лясьніка.

— А на чым ты стаіш, ягомасьцю?

Максім пачуў, што ён прапаў.

— Стаю, як і пан: нагамі на зямлі.

Аб'ежчык раптоўна падскочыў да лясьніка, таўхнуў яго ў грудзі і кашкянуў нагою мох.

Пень раскрыўся.

— Зладзюга! лес крадзеш, сам канцы хаваеш! — як гад, сіпеў аб'ежчык.

У вадзін момант усё пазелянела ў вачох Максіма, і лес закружыўся, заскакаў. Нічога не разважаючы, размахнуўся ён, і яго цяжкая рука з голасным плескам апусьцілася на шчаку аб'ежчыка. Шапка зьляцела зь яго галавы і сам ён захістаўся і паляцеў потырч носам на гэты пень. Максім накінуўся на свайго ворага і пачаў мяць яго.

— Удушу! — хрыпеў ён, як зьвер, сьціснуўшы аб'ежчыка

З таго лесу і пагорку,
З тых лагчынак і з кургану.
Смуткам поле чуць заткана,

Смутак ходзіць па надворку.
Пуцявінкай праз разорку
Скача мышка палахліва

І шукае сваю норку
На мяжы каля аторку
І зьнікае дзесь маўкліва.

Я іду, гляджу і дзіва:
Ці раней таго ня бачыў?
Ўсюды стала нейк пужліва

І трывожна-баязьліва!
Зьмену гэту я зазначыў.
Хто-ж выраз той перайначыў?

Я ня сьцямлю і пытаю,
Ўсіх каго я тут ні бачыў
Ўсіх, каго ні спатыкаю

— Чапля! чапля! стой! — гукаю:
Ты ня ведаеш, скажы ты,
Ці я сам страхоў шукаю,

Сам іх вобразы ствараю,
Ці тым страхам ўсе спавіты?
— Ня пытайся: я ня знаю! —

Тры вароны ляцяць з гаю.
Цяжка крыльлі іх мігаюць.
— Гэй, спынецесь! справу маю:

Штось у вас я запытаю... —
— Мы ня знаем!.. Не, ня знаю!
Закрычалі і зьнікаюць.

Насустрэч старцы дыбаюць.
— Скуль вы, людзі? Хто такія? —
Воч старцы не падымаюць,

Ўсе маўклівы, развважаюць:
— Мы — сьляпыя, мы — глухія! —
Цені сталі больш густыя,

Многалучны, нясчысьлёны,
Многазначны, хоць пустыя,
Вельмі страшны, бо нямыя,
Пад пячацьцю ўсе замкнёны.

**1921**

### ПОКЛІЧ

Гэй, чулыя сэрцам! Гэй, душы жывыя!
Ідзеце вы долі шукаць
Ёсьць у вас сілы яшчэ маладыя,
Ёсьць яшчэ крыльлі лятаць!

Але ўважайце: балотная бросьня
Іх кожную хвілю сачыць,
А гнільлю зацягне, душа не ўваскросьне,
Ўгару над зямлёй ня ўзьляціць.

Вы чуеце хваляў жывых набяганьне?
Прыгледзьцеся: новыя дні,
На вас пазіраюць у іскрах сьвітаньня,
І сьвецяць другія агні.

Сьпяшайцеся, брацьці, расою халоднай
Ваш твар выразьлівы абмыць
І воздух гаючы палёў, нівы роднай
У грудзі чым больш захапіць.

Але памятайце: на вашым сумленьні
Нясплачаны доўг векавы:
То доўг прад народам, то доўг разуменьня,
Якое зачэрпалі вы

З народнага скарбу душы самабытнай
І з скарбу яго мазалёў.
То ён, працавік наш, то ён, старажытны,
На гору нас моўчкі узьвёў.

Гадуе вас поле, што золатам зьзяе...
Пяскоў, неўраджайных пяскоў...
Вас корміць сярмяга, што долі ня знае,
Ня ведае ласкі братаў.

Ідзеце-ж к народу, як добрыя дзеці,
Ідзеце. Злучайце яго
І горкую праўду у вочы скажэце,
Чаго ён гаруе, чаго?

**1921**

# Казкі Жыцьця

Гэта было самае звычайнае дрэва. А калі яно й зварачала на сябе ўвагу, то хіба толькі тым, што стаяла адзінока. Але той, хто шчыра чытае кнігу прыроды і ўнікнуў у яе жыцьцё, яшчэ прыкмеціў-бы, што гэта дрэва, апроч сваей адзіноты, мела нешта чыста свойскае, асобнае, што прыналежала толькі яму аднаму. Навет агульны выгляд яго твару — бо і дрэва мае свой воблік — меў характар цікавай асобнасьці. А як такіх шчырых і ўспагадных знакаў або зусім ня было, або было надта мала, то ніхто не зварачаў на яго ўвагі і яно стаяла тут, закіданае і крыху зьняважанае людзьмі.

Сьпярша навет здавалася, што гэта закіданае адзінокае дрэва стаяла збоку жыцьця — — больш гібела, чым жыло, а на праўду выглядзела, што яно жыло шмат паўней і глыбей пачувала жыцьцё навет тых дрэваў, што расьлі ў лесе. Такі ўжо характар адзіноты, гэта яе ўрода, істота. І хто хоча жыць паўнейшым жыцьцём і гастрэй пранікаць яго цемры-глыбіні, той павінен жыць адзінокім і незалежным. Адзін толькі вецер любіў часта варушыць лісьцё гэтага дрэва, гойдаць яго галінкі і шаптаць яму хітра-лісьсівыя рэчы. Толькі вецер — хоць і часта ён дзьме ў пустых галовах — умее быць сталым, умее маўчаць.

Праўда, крумкач-гарапашнік не адзін раз чуў тыя размовы — шэпты ветру і дрэва. Але крумкач залішне важны для таго, каб разносіць чужыя гутаркі па сьвеце, хіба так, зьнячэўку прамовіцца калі. Затое крумкач, калі што скажа, то скажа праўду. Затым-жа і вароны паважаюць яго, як Жыды рабіна.

Была тут яшчэ адна важная асоба, без каторай не адбывалася ніводная тутэйшая справа. Асоба гэта — ручаёк. І часта бывала, шла жывая гутарка між ветрам, дрэвам і ручаём, а крумкач, начуючы тут, любіў паслухаць іх гаворку і сам навет зрэдка ўстаўляў сваё мудрае слова.

А што было найдзіўнейшым, дык гэта тое, што як вецер, так і ручаёк крэпка палюбілі адзінокае дрэва; па гэтай прычыне, ніколі ня было згоды між ветрам і ручайком. Кажу «палюбілі», бо начай трудна назваць іх такую шчырую прыхільнасьць. Але трэба памятаваць, што бадай ня кожная рэч мае два бакі — паказныя і супраўдзівыя. Можа гэта з паказнага боку здавалася, што ручаёк зь ветрам моцна ўкахаліся ў дрэва. Няхай аб гэтым судзяць мудрыя і кемныя людзі, а я толькі раскажу, як усё тут было.

Вясной і ўлетку часта-часта прылятаў вецер да дрэва, абымаў яго і сваімі пацалункамі асушаў роску зь зялёнага лісьця яго.

— Як я люблю цябе, маё ты мілае і прыгожае, — гаварыў вецер, — ты слухай толькі мяне і больш нікога, спусьціся на маю сьвядомасьць, на сілу маю, на маё моцнае каханьне. Можа холадна табе? Я праганю хмары ачышчу неба і скажу сонцу, каб грэла цябе. Люблю я дзетак тваіх, бо твае дзеткі — мае дзеткі! І вецер прынікаў да яго яшчэ цясьней і абыймаў моцна-моцна.

Дрэва ўсё дрыжала ня то з радасьці, ня то ад трывогі і асыпала сваё насеньне. Вецер падхопліваў яго нёс далёка-далёка. За доўгія часы ён многа занёс сюды насеньня гэтага. З насеньня таго вырас цэлы лес, у каторым і спачываў, як было горача, гэты хітры і злы вецер. Як толькі ён вывіхровываўся ў сьвет, пачынаў балбатаць ручаёк, цякучы каля самага карэньня.

— Ведаеш, рыбка, — журчэў ручаёк: — мне здаецца, што гэты вецер — хвальшывы твой прыяцель. Языком ён намеле няма ведама што: ён табе і хмары разгоніць, і сонцу прыкажа, — слухай яго толькі! А ўвосень вунь якія штукі выкідае! А зімой што робіць? Ты заміраеш на ўсю зіму, нічога ня чуеш, што ён тут вытварае. А я хоць празь лёд, ды чую! Дзе твае дзеткі? Усіх разагнаў ён, а ты адно стаіш тут, як сірата, і твае дзеці сьмяюцца зь цябе, бо так панавучаў іх вецер. Іншая справа — я. Перш-на-перш мы — суседзі, і ў нас так многа супольнага, што трэба моцна трымацца адно другога, бо мы — дзеці зямлі...

Ня скончыў ручаёк гаварыць, бо наляцеў вецер і сыпнуў ад злосьці ў ручаёк цэлае воблака пылу.

— Высушу, як шкурат у Пятроўку, — пагразіў сярдзіта вецер.

— Уй, батрак сусьветны! — сказаў ручаёк, пацямнеўшы ад пылу.

— Што?

— Батрак! батрак! батрак! — грымеў ручаёк.

— Я цар усяго сьвету!

— Кажы гэта дурнейшым за самога, а ня мне, валацуга. Ці-ж можна верыць табе, калі ў цябе сем пятніц на тыдні?! — Адным словам угняваўся ручаёк, ды і цярпеньня ня стала, і ён пабег далей, бубнячы ўсю дарогу на вецер; яму было крыху крыўдна, бо дрэва больш хілілася да ветру, чым да яго.

Чаму?

Ручаёк ніяк ня мог узяць гэтага на розум. Праўда, урэшце ён застанавіўся на думцы, што вецер больш мае ўвагі да дрэва затым, што ён языком меньціць і туды і сюды; не гаворыць праўды, а замазывае вочы рознымі байкамі. Як-бы там ні было, а гэта ніколечкі ня цешыла ручайка і яму ад гэтага ня было лягчэй.

— А што думала само дрэва?

Яно часта нудзілася тут адно. Яму хацелася пабачыць сваіх дзетак, пагутарыць із сваімі роднымі, затым і выглядала яно такім задумленым і сумным. За доўгія часы яно прывыкла да сваей адзіноты і страх як любіла азіраць гэта жыцьцё, што кіпела ўвокал, і ўсе зьявы, якія вынікалі і на небе і на зямлі. І бывалі ў яго такія мамэнты, калі нічога ня думалася, было так лёгка і добра, і самі лісьці яго ціха сьпявалі. Любіла яно паслухаць, што гаманіў непасіда вецер і ручаёк, любіла яно, толькі ня ўмела сказаць яму, як яно любіць яго. А ручаёк палічыў гэта за поўную няўвагу к сваей асобе.

Толькі-ж раз паднялася навальніца. Хмары, як мухі над гаршком куцьці, віліся чорным роем над зямлёй, апяразваючыся агнявістымі стружкамі. Страшна было. Але трэба было ўмяшацца тут ветру і цяпер ён зьявіўся такім, якім ён і ёсьць па сваей натуры: буянам і забіякай. Чуць-чуць стрывала беднае дрэва — рваў і крышыў яго вецер. Навет крумкач павінен быў моцна ўшчаміць капцюрамі галіну, каб ня ськінуцца.

— Здаецца, я табе не насеньне з гэтага дрэва, што хочаш сарваць і мяне для сваей забаўкі — сярдзіта сказаў крумкач.

Тут у дрэва разьвязаліся вочы; пазнала яно, як хітры і злы яго прыяцель.

Угняваўся і ручаёк. Ён надзьмуўся, насупіўся зь берагоў, запенены ўвесь. Зьняважаны, на яго погляд, дрэвам, ён адыйшоўся далей. Убачыла дрэва, што сябры яго пакінулі.

— Што рабіць?

— Пусьці глыбей карэньні ў зямлю, — сказаў крумкач, мудрая птушка, ляцючы на раздабыткі.

**Якуб Колас**

## «Quo vadis» пабеларуску

Нядаўна выйшла ведамая повесьць Г Сенкевіча «Quo vadis» у перакладзе на беларускую мову кс. др. П. Татарыновіча, выдадзеная ў Рыме Выдавецтвам беларускага месячніка «Зьніч». Кніжка выдадзеная старанна ў цьвёрдай каляровай вокладцы й абыймае 475 бачынаў друку вялікага фармату. Кніжка надрукаваная беларускай лацінкай.

Пераклад на беларускую мову й выданьне гэтае сусьветнае славы повесьці Сенкевіча зьяўляецца не малым здабыткам у беларускім культурным жыцьці на эміграцыі, за што перакладальніку й выдаўцу кс. др. П. Татарыновічу, няўтомнаму працаўніку на беларускай нацыянальна-культурнай і рэлігійнай ніве, належыцца глыбокая ўдзячнасьць.

да: ці вярнуў ён гэтым Максіма на месца? Ці дастаў сабе спакой? І ласьне можна адкупіцца ад сумленьня тым, што ён пакідаў уваду дубкі? — «Дурань я», — думаў Андрэй, трасучы карове трасянку.

Ухадзіўшыся, Андрэй вышаў на вуліцу. Во, ужо колькі дзён ён староніцца ад людзей і жыве толькі сам сабой, сваімі думкамі, каторыя так моцна стамілі яго душу. У сяле, у тым яго месцы, дзе вуліца выходзіць к Нёману, стаяла даўней старая карчма. Гэта карчма, бывала, біткам была набіта людзьмі. Сюды хсодзіліся і ў радасьці і ў горы; тут была гарэлка, каторая, як кажуць знайкі па часьці пыпіўкі, была і крапчэйшая, і таньнейшая, і шмат прыямнейшая ад цяперашняй манаполькі. Во, па старой памяці, сюды ўсё яшчэ цягнула сялянаў гэта месца, дзе стаяла калісь карчма, ад каторай застаўся адзін толькі падмурак; і тут стаялі яны, усунуўшы ў зубы цыбухі і схаваўшы рукі ў рукавы кажухоў, пад адкрытым небам. І гэтым разам былі тут мужчыны, і сярод іх ішла сур'ёзная гутарка. Андрэй стаяў здалёк адзін і не адважыўся падыходзіць бліжэй. Раптоўна ён задрыжэў: у гэтай кучцы сялянаў быў Максім Заруба. Андрэй быў павярнуўся, каб ісьці назад, але яго цягнула нейкая сіла да гэтай кучкі. Максім стаяў і штось гаварыў. Аб чым ён гаворыць? Андрэй ня мог больш працівіцца жаданьню ведаць, што гаворыць загублены ім чалавек, і ён пайшоў. Яму паказалася, што людзі глядзелі на яго так, як-бы ведалі ўсю справу з дубком. Андрэй прывітаўся зь сялянамі агульным «дзень-добры», а Максіму працягнуў руку і нясьмела сказаў:

— Здароў, Максім!

— Здароў, брат Андрэй! Ну, Андрэй, сказаў Максім: прымай, брат, у падсуседзі.

Сэрца ў Андрэя так і апала: няўжо Максім ведае, што ён, Андрэй, сьсек дубок? — чаму загаварыў аб падсуседзтве? Не! каб ведаў, то наўрад-бы падаў яму руку, ня толькі што зьвярнуўся-б да яго з такой мовай.

— Завошта-ж, брат, цябе выдалілі? — спытаў замест адказу, нібы то нічога ня ведаючы, Андрэй.

— Тырчаў на дарозе пень, пакуль за яго не чапляліся, а сталі чапляцца, — пню ня стрымацца.

— Дык не за дубок адказалі ад месца?! — з жарам спытаўся Андрэй і вочы яго прасьвятлеліся.

Максім нахмурыўся, як-бы цень лёг на яго лоб.

— Скуль ты ведаеш аб дубку?

— Каму і ня ведаць, як не Андрэю, — пажартаваў Стаська Гук.

Андрэй зьмяшаўся, пабялеў і сказаў:

— Так гавораць.

Андрэй зірнуў на Максіма. За апошнія часы Максім асунуўся, пахудзеў. Вочы яго глыбока запалі ў лоб. Відаць, многа горкіх думак, трывогі і клопату перамятушылася ў яго мазгох. І было з чаго: што злога ён зрабіў? за чыю віну паплаціўся? І куды цяпер дзецца? Адрэй, як праступнік, апусьціў галаву. Момант, і ўвесь здрыгануўся, падняў галаву, акінуў усіх поглядам.

— Максім, братка! Гэта за мяне ты пакутуеш: гэта я сьсек дубка! Рабі зы мной што хочаш. Бі, катуй мяне! Усе змоўклі і пазіралі на Андрэя.

— Няхай будзе пракляты той час, калі я першы раз зірнуў на гэта няшчаснае дрэва. За што цярпіш ты?

Максім горка ўсьміхнуўся.

— Ты сьсек дубок? Ось, ніколі не спадзяваўся! Э! цяпер ужо ўсё роўна. Табе можа ад гэтага лягчэй, а мне — адзін чорт. Ды, калі на праўду вышла, то ты не такі ўжо вінаваты, як табе здаецца... О, каб я цябе злавіў у лесе, то быў-бы другі рахунак. А цяпер твая споведзь паможа мне, як мёртваму кадзіла.

— Паможа, паможа! — закрычаў Андрэй: — я пайду ў лясьніцтва і разкажу ўсю праўду. Няхай мяне судзяць, няхай забяруць апошнюю карову, няхай пухнуць з голаду дзеці, — не кажы толькі, што Андрэй цябе згубіў!

Андрэй крута і зь сілай павярнуўся.

### VIII

— Сьмейцеся, добрыя людзі: здурнеў зусім чалавек! — пачакаўшы з паўгадзіны, чуўся жаночы голас каля Андрэевай хаты.

Андрэй, апрануўшы кажух і ўзяўшы палку, вышаў з двара на гароды, каб ня ісьці вуліцай, а жонка стаяла каля парогу і адчытывала Андрэя.

Андрэй маўчаў. Твар яго быў сур'ёзны, важны і спакойны.

— Вярніся, вярніся, Андрэй! — ня ўнімалася жонка. Андрэй ня слухаў і сьцігаў дальш, не азіраючыся.

— Божа мой! Што зь ім сталася? Пагібелі сабе і дзецям шукае чалавек... Каб ты ногі паламаў, каб ты дарогі ня бачыў! Вярні-і-ся!

Жонка яшчэ доўга плакала і галасіла, а Андрэй тым часам мінуў ужо сяло і вышаў на дарогу. Вокал расьсьцілалася поле, голае, пустое, абабранае. Збоку цягнуўся луг наабапал Нёману. Там і сям стаялі парыжэлыя стагі. Далей перад Андрэем пачынаўся лес, праз каторы ішла дарога. А над усім гэтым вісела хмурнае неба, як кепска загаранае поле. На ўзгорках падыхаў халодны паўночны вецер, гразь сьціскалася марозікам і пад нагамі цьвярдзела. Гадзіны праз паўтары Андрэй быў у лясьніцтве.

За сталом у канцылярыі сядзеў стары лясьнічы. Гэта быў няўступчывы чалавек, з каторым было трудна дайсьці да ладу.

Пераступіўшы парог канцылярыі, Андрэй нізка пакланіўся. Лясьнічы кіўнуў галавой і зноў стаў пісаць. Потым павярнуў галаву да Андрэя.

Пажаваўшы ськівіцамі, пан запытаў:

— А што скажаш, чалавеча?

— Панок! — сказаў Андрэй і ўвесь падаўся наперад, — дарэмна пакаралі Максіма Зарубу: я ўкраў дубок! — Тут Андрэй злажыў накрыж пальцы і пацалаваў іх.

— Пакарай мяне Бог, калі я за згодай Максіма высек гэты дубок.

Лясьнічы, вытрашчыўшы вочы, пазіраў на Андрэя. Пажаваўшы ськівіцамі — такі быў звычай у старога пана жаваць ськівіцамі перад тым, як гаварыць, — ён сказаў:

— А заўважай, небарача: ты гаворыш — дуб высек?

— Я, я, паночку!

— Гм! то які-ж-бы ты быў гаспадар, каб ня краў у лесе? — спытаў лясьнічы.

— Панок, залаценькі! Даруй, панок, Максіму! Я вінават, — штрафуйце, судзеце мяне. За што-ж будзе нявінны чалавек цярпець?

— Табе Максім не сваяк?

— Не, панок, ня свой.

— То мусі быць, ён цябе падгадзіў?

— Панок, грэх гаварыць гэта! Максім нічога ня ведаў. Толькі сягоньня пры людзях я прызнаўся яму і сам сабой прышоў да пана. Даруй, паночак, Максіму. Няхай лепш мяне пан судзіць. Я вінаваты і я павінен адпакутаваць.

— Ха-ха-ха! А заўважай, небарача: сьмешны ты чалавек. Вось-жа ня буду ні штрафаваць, ні ў суд падаваць, калі ты гэтага просіш. А Максіма ня прыму, бо ён забіяка, разбойнік.

Доўга прасіў Андрэй лясьнічага, але пан быў цьвёрды і збываў жартамі.

...Грудкі хмарак разгладзіліся, неба пабялела і пашоў дробненькі сьняжок, як Андрэй ішоў зь лясьніцтва.

Усю дарогу развважаў Андрэй у сваіх думках. На душы яго стала спакойней, як пасьля кажнай буры. А сьнег усё падаў гусьцей; зямля забялелася. Лес стаяў спакойны; толькі ўгары шумелі паціхеньку хваёвыя галінкі, як-бы віталі першы сьняжок. А можа яны шапталі што Андрэю, як шэпча маці, сьхіліўшыся над дзіцём, расказывалі сваёй мовай аб тым, што Андрэй сапраўды не такі вінаваты, як гэта крычыць яму кажную мінуту яго чуткае сумленьне? Эх, лес! колькі чаго давялося бачыць яму на сваім вяку! Многа ён ведае ўсяго! І, каб Андрэй расчытаў яго гутарку, то саўсім-бы інакш пазіраў на сьвет.

І ўспомнілася Андрэю старая казка, каторую даўно-даўно, у шчасьлівыя гады яго дзяцінства, расказывала нябожчыца баба.

Ськівула неба на зямлю дзіўны клубочак. Усіх карміў гэты клубок, і карміліся ім людзі, карміліся зьверы і птушкі і розныя маленькія жывёлінкі, бо для ўсіх прадназначыла яго сьвятое неба. І ўсе жывіліся і для ўсіх яго ставала. Пазайздосьціў гэтаму злыдзень, і няма ведама дзе дзеўся дар неба. І цяжка стала жыць на сьвеце. Зямля пачала бяднець і спустошывацца. Дзе былі даўней шырокія рэкі — там засталіся цяпер чуць значныя палоскі вады, дзе і саўсім яна высахла, парабіліся пустэчы. Лясы сталі зводзіцца, пачаўся голад сярод зьвяроў, многа іх паздыхала. Мошкі накінуліся на людзей, разьвёўся бруд, каторы накінуўся на чалавека і стаў піць яго кроў. Зямля пачала кепска радзіць; пашлі па сьвеце паморкі, паўстала сварка, калатня, бойка. Людзі сталі трывожныя, неспакойныя усё чагось спадзяюцца, чагось шукаюць, да чагось прыслухіваюцца. Само неба спахмурнела і адвярнула ад зямлі свой воблік...

Лес скончыўся. Во бераг Нёмну. Вярсты дзьве адгэтуль пакідаў Андрэй дубкі. Ён ішоў берагам, прыглядаўся, як-бы чагось шукаў. Вокал быто пуста. А сьнег усё сыпаў і сыпаў...

**Якуб Колас**

